# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 34 (236) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 20 ЖНІЎНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


Так выглядае другі савецкі касманаўт — маёр Герман Сцяпанавіч Цітаў — першы чалавек, які звяршыў кіраваны касмічны палёт на караблі - спутніку «Усход — 2».

Г. С. Цітаў рускі, мае 26 год, жанаты на 23-гадовай Тамары Васільеўнай. Родам з вёскі Верхняе Жыліна ў Алтайскім краі, сын настаўніка. Пасля сярэдняй школы, закончыў як выдатнік ваенна - авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў па першаму разраду, затым быў накіраваны для праходжання службы ў Ленінградскую ваенную акругу. Маёр Цітаў з'яўляецца членам КПСС.

## СЛАНЕЧНІК

Зямлі прысніўся дзіўны сон —
І не знайсці спакою:
Сланечнік — жоўты маладзён —
Схіляецца над ёю.

Зямля прачнулася,
Маўчыць:
Узрушана бясконца —
Такі малы і ўжо крычыць,
Што ён дастане сонца.

Дае зямля пажытак свой —
Няхай расце высокі,
Карэнне гладзіла рукой,
Паіла лепшым сокам.

І чуе раніцай —
Здаля
Сланечнік кажа бэзу:
— Навошта мне цяпер зямля,
Я сам да сонца ўзлезу.

Далёка сонца.
А палі
Ужо абходзіць восень.
І тут сланечнік у зямлі
Ізноў падтрымкі просіць...

Яго карэнні не жывуць:
Зацісънуты травою.
І ён,
Схіліўшы галаву,
Стаіць па-над зямлёю.

ЮРАСЬ СВІРКА



## ГАВОРЫЦЬ КАСМАНАЎТ ЦІТАЎ

— Усё бачанае Юрыем Гагарыным пацвярдзілася. Я бачыў незвычайнае сонца і зоркі. Найярчэйшыя, незямныя колеры. Космас чакае свайго мастака і паэта і, зразумела, вучоных.

*

— Усякая прафесія складаная і цікавая па-свойму. Калі чалавек знайшоў сваё прызванне, праца становіцца для яго радасцю. Чым больш будзеш ведаць, тым больш будзеш карысным для справы. Старт, палёт і фініш усё цяжка па-свойму, усё мае свае асаблівасці. Увесь касмічны палёт — цяжкая работа.

*

— Няважкасць не прыводзіць да нарушэння працаздольнасці. Пры ёй можна жыць і працаваць. Уся навуковая праграма, дадзеная касманаўту на перыяд палёту, выканана поўнасцю. Вось найлепшы доказ, што няважкасць не страшная.

*

— Я — сын рускага народа. Гэта ён, які ўзяў у 1917 годзе ўладу ў свае рукі, падрыхтаваў наш подзвіг. Яго могуць паўтарыць тысячы такіх жа простых людзей, як я і Юрый. Наша краіна, наш Савецкі Ўрад і Камуністычная партыя робяць усё, каб народ звяршаў подзвігі ў імя перамогі камунізма.

*

— Калі я прызямліўся, то падумаў: ну, вось, работа закончана, тая работа, у якой прымалі ўдзел шматлікія людзі краіны. Я меў пачуццё споўненага абавязку уседамляў, што даручанае мне заданне выканана, і я зноў на зямлі, нашай савецкай зямлі.

*

— Я ведаў, што ёсць сум па радзіме, які завецца настальгіяй. Але, аказваецца, ёсць яшчэ сум па Зямлі. Не ведаю, як яго назавуць, але ён ёсць. Няма нічога больш цудоўнага ў свеце як зямля Радзімы, на якой можна стаяць, дыхаць палявым ветрам.



17 год назад у абставінах пераможнага наступлення Савецкай Арміі румынскі народ пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі падняў збройнае наступленне і скінуў фашысцкую дыктатуру. Дзень 23 жніўня стаў вялікім нацыянальным святам румынскага народа. За кароткі гістарычны адрэзак часу працоўныя Румыніі ажыццявілі глыбокія палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя пераўтварэнні. З убогай, адсталай, сельскагаспадарчай краіны Румынія пераўтварылася ў развітую індустрыяльна аграрную дзяржаву, з бурна развіваючайся прамысловасцю.

На здымку: На заводзе «Рэспубліка» ў Бухарэшце. Прадукцыя сталёвых труб для нафтавай прамысловасці.



Выступае Максім Танк.

ВЕСТКІ з БССР

# ГРАМАДСКАСЦЬ БЕЛАРУСІ ЎРАЧЫСТА АДЗНАЧЫЛА СВЯТА ПОЛЬСКАГА НАРОДА



Прэзідыум.



Беларускі Дзяржаўны народны ансамбль песні і танца выконвае польскую народную песню «За гарамі, за лясамі».



У зале.

Працоўныя Беларусі шырока адзначылі свята вызвалення Польшчы. 21 ліпеня ў Мінску ў Палацы культуры прафсаюзаў адбыўся ўрачысты сход грамадскасці горада, арганізаваны Мінскім гаркомам КП Беларусі, Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Беларускім аддзелам Таварыства савецка - польскай дружбы, ЦК ЛКСМБ, Беларускім рэспубліканскім саветам прафсаюзаў, Міністэрствам культуры БССР.

У сходзе ўзялі ўдзел Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлоў, першы сакратар Мінскага абкома КПБ С.О. Прытыцкі, загадчык аддзелам прапаганды і агітацыі ЦК КПБ Н. А. Халіпаў, старшыня Рэўкамісіі КПБ В. Я. Садых, сакратар Мінскага гаркома партыі А. Б. Насілоўскі, старшыня выканкома Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных В. І. Шарапаў, міністр асветы БССР І. М. Ільюшын, намеснік старшыні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі В. А. Чарняўская, сакратар Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў А. П. Абуховіч і іншыя адказныя працаўнікі рэспублікі.

Сход адкрыў першы сакратар Мінскага гаркома партыі А. Б. Насілоўскі. Аркестр выканаў дзяржаўныя гімны ПНР, СССР і БССР.

З дакладам аб 17-ай гадавіне ПНР выступіў старшыня праўлення Беларускага аддзела Таварыства савецка - польскай дружбы паэт Максім Танк.

Цёпла сустрэты прысутнымі на сходзе выступіў гандлёвы аташэ ПНР у СССР тав. Казімеж Мазурэк.

У заключэнні адбыўся канцэрт.

Вечары савецка-польскай дружбы, прысвечаныя 17-ай гадавіне ПНР, адбыліся ў абласных цэнтрах Брэсце і Гродне, у раённых цэнтрах Іванцы, Навагрудку, Горках, Баранавічах, Пінску, Камянцы, Высокам, Кобрыне і іншых раёнах, а таксама ва ўсіх мясцовых аддзелах Таварыства савецка - польскай дружбы.

У Мінску і ва ўсіх мясцовых аддзелах ТСПД экспанавалася фотападборка «У Польскай Народнай Рэспубліцы», а таксама фотахронік- ПНР.

На прадпрыемствах, у калгасах і культурна - асветных установах рэспублікі адбыліся лекцыі, даклады і гутаркі аб дасягненнях працоўных ПНР у будаўніцтве сацыялізма.

У рэспубліканскім друку, абласных, раённых і шматтыражных газетах апублікаваны артыкулы і інфармацыі аб нацыянальным свяце польскага народа. Камітэт па радыёвяшчанню і тэлебачанню пры Савеце Міністраў БССР арганізаваў спецыяльныя радыё і тэлеперадачы, прысвечаныя 17-ай гадавіне ПНР.

**М. МАЦКЕВІЧ**
**Сакратар Праўлення**
**Беларускага аддзела ТСПД**

---

наладжана. Масла — першы гатунак. Забірай хутчэй, а мне хоць зараз распісачку выдай.

— Якую распісачку? — не зразумеў Мінай.

— А такую, што, маўляў, масла вы ў мяне забралі. Інакш фашысты мне не павераць.

— А распісцы, думаеш, павераць?

— Яшчэ як! — упэўнена сказаў Патапаў. — Вы ж сілай, выходзіць, адабралі, а значыць не ў мяне, а ў іх. Мая хата з краю...

Мінай выдаў запіску, і ў той жа дзень масла было дастаўлена ў атрад.

З тых пор партызанскія распіскі сталі для калгаснікаў ахоўнымі граматамі. Старшыні і не прасілі больш наладжваць напады, самыя везлі ў лес збожжа, масла, яйкі.

І здзіўляючая справа: фашысты верылі партызанскім распіскам! Лаяліся, абзывалі Міная «двуногім ваўком», назначалі за яго галаву ўсё большыя і большыя ўзнагароды, а ў адказ атрымлівалі чарговую «цыдульку»:

**«Фашысцкія пастаўкі атрымаў поўнасцю.**



**Камандзір партызанскага атрада Бацька Мінай».**

✲

Наступіў верасень. Аднойчы вяртаючыся з засады Мінай пачуў сумнае курлыканне жураўлёў.

— На зімовыя кватэры, — паправіўшы аўтамат і чамусьці ўздрыгнуўшы, голасна падумаў камандзір атрада.

— І нам пара б падумаць аб гэтым, — падхапіў камісар Шкрэда. Лясы нашы невялікі, тут не перазімуеш: сляды на снезе адразу выдадуць.

Пытанне аб зімоўцы даўно трывожыла абоіх, а цяпер яны з асаблівай выразнасцю зразумелі, што адкладваць справу больш нельга.

На нарадзе ў штабе камандаванне вырашыла перавесці атрад на паўднёвы захад, у раён Астраўской і Шэльбаўскай дач.

І вось атрад у паходным парадку пакінуў стары лагер. Рушылі ў месячную поўнач. На другі дзень, перайшоўшы рэчку Аўсянку, атрад размясціўся на адпачынак.

Мінай з асалодай лёг каля кастра. Нават разуўся.



— А дык тут, апрача нас, нехта жыве, — падышоў да яго Рычард Шкрэда. — За той вунь гарой, у ельніку, са ўсіх дрэў кара сарвана. Ці не на зямлянкі бралі?

— Трэба спраўдзіць, — Мінай з цяжкасцю нацягнуў ссохшыеся боты. — Міхайлаў і Кравец — за мною!

Паўкіламетра ад Паўлавічаў яны наткнуліся на свежую трапінку. Яна вывела іх на паляну, затым пабегла ўздоўж дробналесся і, нарэшце, абарвалася ля невялікага яра. За ярам быў пасёлак.

— Бацька, глядзі! — зашаптаў Кравец і паказаў пад ногі. На зямлі выразна адціснуліся шматлікія сляды абцасаў.

— Ого, колькі іх! — міжволі здзівіўся Мінай, і ў той жа момант партызаны пачулі грозны вокліч:

— Стой! Рукі ўгору!

З карчоў выглядваў шыракатвары хлопец, у бурым ад гразі ватніку.

— Ну-ну, цішэй, — спакойна адказаў Мінай. — Нас трое, а ты... Дзе табе справіцца з намі?



— Вас трое, а нас трыццаць. Падымай кажу, рукі, а не, дык!...

— Хопіць крычаць, — усміхнуўся Мінай, убачыўшы на пілотцы хлопца выразаную з бляхі звёздачку. — Вядзі лепш нас да свайго камандзіра.

Ужо цямнела, калі вартаўнік даставіў іх у свой лагер. Мінай увайшоў у маленькую зямлянку. Пасярод яе гудзела распаленая печ. На нарах сядзелі двое, відавочна, начальнікі.

Мінай назваў сябе, і яны адразу падняліся.

— Шмат чулі аб вас, таварыш Шмыраў, працягнуў яму руку смуглы барадач у армейскай гімнасцёрцы. — Я Нароенка, камісар спецатрада, а гэта, — Іваноў, у мінулым чакіст, цяпер наш камандзір.

Таварышы расказалі, што іх атрад, сфарміраваны па вырашэнню Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, яшчэ ў ліпені быў перакінуты са Ржэва ў варожы тыл.

— Чулі аб вас, чулі, — усміхнуўся Іваноў. — Даўно мару з вамі

(Працяг на стар. 7)

# СУМЛЕННАСЦЬ НЕ ПАДАЕ З НЕБА

няўдачамі, раяцца адзін з адным. Ва ўзаемаадносінах паміж бацькамі і дзецьмі не павінна быць фальшы і крывадушша. Да дзяцей трэба ставіцца з даверам, не спяшацца з вывадам: «ты маніш», «не мані». З аднаго боку гэта абражае дзіця, а з другога дае адчуць, што можна маніць.

Часцей за ўсё дзеці пачынаюць хлусіць ад баязлівасці. Яны баяцца пакарання за свае ўчынкі і хлусяць. Асабліва гэта здараецца там, дзе ўжываюць фізічныя меры пакарання. Вядома, за дрэнны ўчынак пакараць трэба, але так, каб пакаранне не выклікала страху, не вымушала хлусіць.

Дабразычлівыя адносіны бацькоў да дзяцей выклікаюць у малышоў імкненне аб усім расказаць, усім падзяліцца. Трэба прыцягваць дзяцей да шчырых размоў, умець выслухаць дзіця, даць параду, унікаць у іх запытанні, інтарэсы. Такім чынам дзеці прызвычайваюцца дзяліцца сваімі поспехамі і няўдачамі.

У выхаванні сумленнасці і праўдзівасці, вельмі важна, каб бацькі заўсёды выконвалі дадзенае абяцанне. Ніколі не трэба абяцаць таго, што не магчыма выканаць.

«Сумленнасць, — гаварыў А. С. Макаранка, — не падае з неба, — яна выхоўваецца ў сям'і. У сям'і можна выхаваць і бессумленнасць. Усё залежыць ад правільнага выхаваўчага метаду бацькоў... Несумленнасць ёсць тайныя, схаваныя адносіны. Калі дзіця хоча яблык і адкрыта аб гэтым гаворыць, тэта будзе сумленна. Калі яно гэта жаданне пакіне ў глыбіні душы, але не адмаўляецца ад яблыка, а імкнецца ўзяць яго, каб ніхто не бачыў, гэта ўжо будзе несумленна. Калі маці дае гэты яблык употай ад іншых дзяцей, дапусцім, нават чужых, яна ўжо выхоўвае ў ім патаемныя адносіны да рэчы, значыцца, выхоўвае несумленнасць...»

Макаранка гаворыць, што ад дзяцей нічога не трэба наўмысна хаваць, але трэба прывучаць, каб без дазволу яны самі нічога не бралі, нават тое, што ляжыць на відавоку. Калі даручаеце дзіцяці што-небудзь купіць, правярайце пакупкі і рэшту. Гэта трэба рабіць да таго часу, пакуль у дзіцяці не выпрацуецца цвёрдае правіла сумленных паводзін. Але такую праверку трэба рабіць вельмі далікатна, каб дзіця не падумала, што яму не давяраюць.

Часам школьнікі малодшага ўзросту вельмі вузка разумеюць праўдзівасць і сумленнасць. На іх думку, несумленна браць чужое без дазволу, але падказванне і спісванне яны разумеюць як дапамогу сябрам. Абавязак бацькоў — растлумачыць, што сумленны чалавек заўсёды скажа аб сваіх памылках, памылках таварыша, добрасумленна паставіцца для даручанай справы.

Нельга не адзначыць, што не ўсе дзіцячыя разважанні, якія не адпавядаюць сапраўднасці, можна назваць хлуснёй. Дзеці любяць фантазіраваць, і гэта не хлусня. Трэба адрозніваць фантазію ад хлусні.

Г. Б.

# ШКОЛА Ў ГЕНЮШАХ

Школа ў Генюшах вялікая, прасторная. Яна з'яўляецца не толькі цэнтрам асветы і культуры. У гэтай школе існуюць сталярскія і слясарскія станкі. У час сёлеташняга жніва часта гаспадары пад'язджалі пад школу са жняяркамі і ў майстэрні рамантавалі папсутыя часткі. Асабліва слясарскі станок вельмі часта выкарыстоўваўся сялянамі. Такім чынам школьныя станкі шмат часу эканомілі гаспадарам, не было патрэбы ехаць у Саколку з-за дробнага рамонту.

Трэба падкрэсліць і тое, што кіраўнік школы Раман Глінскі з вялікім зразуменнем падышоў да так важнай справы, як уборка хлеба, дазваляючы сялянам карыстаць школьнымі станкамі і ўсімі сталярскімі прыладамі.

✼

У гэтай школе на належным узроўні палітэхнізацыя. 6 і 7 класы ў час навучальнага года на ўроках робяць кармільнікі для птушак, шпакоўні, рамантуюць школьныя сталы, робяць лаўкі. Гэтыя лаўкі стаяць на школьным пляцы, а таксама на аўтобусным прыпынку. Калі прыязджае да школы кінаперасоўка, тады гэтыя лаўкі ўносяцца ў найбольшую школьную залу і на іх сядзяць бацькі, браты і сваякі школьнікаў.

Перад заканчэннем навучальнага года было зроблена яшчэ некалькі лавак. У час канікул іх памалявалі.

Вядома, матэрыял на лаўкі, кармільнікі і шпакоўні падрыхтаваў бацькоўскі камітэт, які вельмі добра працуе. А вось некалькі фактаў з яго дзейнасці.

Бацькоўскі камітэт грамадскім чынам пабудаваў вакол школы 36 метраў тратуара.

Бацькоўскі камітэт пабудаваў сялянскім спосабам патрэбны для школы гаспадарчы будынак. Кошт яго выносіць 16 тыс. зл. Калі б пабудавала гэты будынак будаўлянае прадпрыемства, тады трэба было б заплаціць 48 тыс. зл. Вядома, галоўным дарадчыкам бацькоўскага камітэта з'яўляецца кіраўнік школы, Раман Глінскі, які працуе ў Генюшах ужо больш як 10 год.

Вось коратка аб Генюшоўскай школе на Сакольшчыне.

м.х.



Школа ў Генюшах



Гаспадарчы будынак



Школьная майстэрня.



«Уласная» лаўка

фота Г. Рагазінскі

сынка. Не так ступіла, не так глянула, і ў хаце сварка.

— Дакуль вы будзеце сядзець на маім карку? — часта гаварыў Ярмак. — Я ж цябе выгадаваў, у людзі пусціў, дык ідзі к чорту ў канцы, — гаварыў ён Чэславу ў час злосці.

— Гэта маё, бацькаўскае, — адказваў Чэслаў. — Дык куды ж мне ісці са свайго?

Дайшло да таго, што Чэслаў з жонкай не начавалі ў роднай хаце.

— Трэба шукаць справядлівасці, — рашыў Чэслаў. — Ён жа не мае права выгнаць мяне з бацькаўшчыны.

13 ліпеня Чэслаў з жонкай накіраваўся ў Дуброву. Вярнуліся пад вечар.

— Што, шукаеш правоў на гаспадарку?! — сустрэў іх уз'яраны Ярмак. — Я табе зараз дам свае правы? —закрычаў ён, вырываючы з дрывотніска бярозавы кол.

— Уцякай, прыб'е! — закрычала жонка! — Людачкі, ратуйце! — загаласіла яна ў бок вуліцы.

Чэслаў толькі паспеў засланіцца рукамі. Над галавою засвістаў кол, і перабітая рука безуладна абвісла.

Чэслава адвязлі ў бальніцу, а пасля адбыўся суд, на якім Чэслаў атрымаў кару паўтара года турмы (у завяшэнні) за здзекі над бацькамі.

Здорава, што?!

— Ярмак на судзе так павярнуў справу, — расказвае Чэслаў, — што гэта я вярнуўшыся з Дубровы пачаў біць матку, а ён, нібы ратуючы яе, стукнуў мяне па руцэ. І як не крыўдна, — маці ўсю гэту хлусню пацвердзіла. Родная маці, якую толькі разоў бараніў ад пабояў айчыма.

— Ну, што ж, — гавораць у вёсцы, — Ярмак чалавек цёплы. Ён яшчэ доўга пажыве тым, што прывалок ад Андэрса. А за грошы, як відаць, усё можна.

З таго часу Чэслаў, пакінуўшы родную хату і гаспадарку, якая ў далейшым фігуруе на яго прозвішча, перайшоў жыць да цесця.

— Па чыім жа баку праўда? — пытаем у прэзідыуме ГРН.

— Ярмак кепскі чалавек, — адказваюць нам. Чэслаў спакойны хлапец. Працаваў, як вол, слухаўся. Ярмаку родны сын не быў бы больш паслушны. А цяпер вось выгнаў з бацькаўшчыны. Захланны чалавек Ярмак. У яго ж ёсць яшчэ і свая гаспадарка ў Сюлку, якую ён апрацоўвае.

— Нядаўна суд выдаў пастанову, — расказвае Антон Ярмак, — што адзіным наследнікам маёй (чытай памёршага Язэпа Гарасіміка) гаспадаркі з'яўляецца Чэслаў. Палова гаспадаркі лічыцца на маю жонку толькі да канца яе жыцця, а пасля пераходзіць на Чэслава. І дзе ж тут справядлівасць. Я ж на гэтай гаспадарцы ад 1930 года працую. Дык з кім жа я ёю цяпер буду дзяліцца. Не, на гэта я не згаджуся. Буду далей пісаць, буду свайго даходзіць. А Чэслаў, калі хоча, няхай прыходзіць, жыве, толькі самі бачыце, хата ў нас малая, самым цесна. А дзяліцца, як жа я з Чэславам падзялюся. Тут жа і крэсла, і стол, не распілуеш гэтага на палавіну.

— Ужо тры разы суд адбываўся ў гэтай справе, кажа Чэслаў Гарасімік, — і няма ніякай канкрэтнай развязкі. Людзям у вочы глядзець сорамна. Пайду зноў на бацькаўскае поле, дык зараз спрэчка, а то бойка з айчымам. Паглядзіш за граніцу, дык там усё трактарамі, камбайнамі. І спрэчкі ў іх ніколі не пачуеш. А мы тут на вузкіх загончыках да горла сабе скачам. Заскрабе за душу, дык здаецца плюнуў бы на ўсё гэтае і ў ПГР ці дзе пайшоў бы. Ці ж мала ў нас месца? Але зноў аднавяскоўцы пальцамі запоруць, што бацькаўшчыну пакінуў чужому і ў свет пайшоў. І сапраўды, ці ж я не гаспадар на бацькаўскім? Як далей мне быць і што рабіць сам не ведаю.

✼

Справа, аб якой я тут напісаў, не выпадковая. Падобнымі справамі нашыя павятовыя суды завалены. Усё за ўласнасць, за гаспадарку, загон, а то і вярбу, якая расце на мяжы, побач з суседавым загонам.

Як жа вырашыць гэтую, штораз больш балючую праблему? У адным я толькі ўпэўнены. Пакуль «гаспадар» будзе гаспадарыць на сваім вузкім загоне, пакуль будзе думаць катэгорыямі гэтага загона, да тае пары адзін другому будзе ваўком. Да таго прымушае менавіта яго **ўласная** дробнавытворчая гаспадарка.

В. БАРШЧЭЎСКІ

# НЯБАЧАНАЕ СКОПІШЧА ЗОРАК

Вялікае скопішча белых карлікаў — звышшчыльных зорак, якія валодаюць нізкай свяцімасцю і высокай тэмпературай, упершыню ў гісторыі астранамічнай навукі адкрыта групай супрацоўнікаў Бюраканскай астрафізічнай абсерваторыі Акадэміі навук Арменіі.

У гутарцы з карэспандэнтам ТАСС В. Надзіранам дырэктар абсерваторыі акадэміі В. А. Амбарцумян паведаміў, што скопішча мае выцятнутую форму з найбольшым лінейным дыяметрам каля 25 светавых год (адзін светавы год — гэта адлегласць, якую праходзіць святло за дванаццаць месяцаў. Скорасць жа святла роўна 300 тысячам кіламетраў у секунду). Яно адкрыта ў сузор'і Ліры на адлегласці амаль 800 светавых год ад Зямлі.

Для канчатковага даследавання гэтага скопішча намі выкарыстан нядаўна ўстаноўлены ў абсерваторыі метравы тэлескоп сістэмы Шміта, які, як вядома, з'яўляецца ўнікальным інструментам, выробленым айчыннай оптыкамеханічнай прамысловасцю. Здымкі, зробленыя гэтым магутным рэфлектарам, дазволілі выявіць найбольш слабыя зоркі, якія ўваходзяць у скопішча.

— Якія характэрныя асаблівасці гэтых аддаленых нябесных аб'ектаў?

— Калі б можна было пачак ад запалак напоўніць рэчывам белага карліка, то ён важыў бы некалькі тон. Па свяцімасці зоркі гэтага тыпу прыкладна ў 1.000 разоў слабейшыя за Сонца, па велічыні яны такога ж парадку, як Сонца, а па сваёй бачнай яркасці — у сотні тысяч разоў слабейшыя за самыя слабыя з зорак, якія відаць простым вокам. Іменна таму вельмі цяжка выявіць іх нават пры наяўнасці сучасных аптычных прыбораў.

— Якое значэнне новага адкрыцця армянскіх вучоных?

— Перш за ўсё трэба адзначыць, што гэта першы выпадак, калі выяўляюць цэлае скопішча, якое складаецца з белых карлікаў. Апошнія, згодна з пашыранай у цяперашні час думкай, з'яўляюцца найбольш позняй стадыяй жыцця зоркі. Таму даная група белых карлікаў павінна быць вельмі старой — звыш 10 мільярдаў год. Па свайму ўзросту яна, відаць, пераўзыходзіць усе іншыя вядомыя скопішчы нашай галактыкі.

— Якія задачы ўзнікаюць перад астрафізікай у сувязі з гэтым адкрыццём?

— Узнікае рад новых захапляючых задач. У прыватнасці, паспрабуем знайсці іншыя аддаленыя скопішчы зорак падобнага тыпу.

# ПАШТОЎКА З ЯВЫ



**Хоць Ява не найбольшы востраў Інданезіі, аднак з'яўляецца яна галоўным цэнтрам краіны. Тут, на заходнім пабярэжжы, ляжыць сталіца гэтай краіны — Джакарта. На гэтым жа востраве знаходзіцца і горад Бандунг, вядомы з I канферэнцыі краін Азіі і Афрыкі ў 1955 г.**

**На здымку: тыповы дом у Бандунгу, у інданезійскім стылі.**

# ПАРАДЫ

### ЯК ЗМАГАЦЦА З ПЕРХАЦЦЮ

Як вядома, перхаць перашкаджае росту валасоў і вядзе нават да выпадзення іх. У якасці сродку барацьбы з перхаццю можна рэкамендаваць раствор, які складаецца з трох роўных частак гліцэрыну, спірту і вады. Гэты раствор уціраюць у скуру галавы. Існуе яшчэ адзін сродак барацьбы з перхаццю. Ён падрыхтоўваецца наступным чынам: трэба ўзяць цыбуліну, ачысціць яе, парэзаць на дробныя кавалачкі, заліць разведзеным спіртам і ў закрытай (пажадана шкляной) пасудзіне паставіць у цёплае месца. Праз тыдзень раствор будзе гатовы. Яго неабходна працадзіць праз марлю, каб аддзяліць цыбулю. Гэтым саставам націраюць скуру галавы.

### УКУСЫ НАСЯКОМЫХ

З надыходам лета нам часта даводзіцца мець непрыемнасці ад укуса насякомых. Пасля ўкусаў скура чырванее і апухае. Асабліва прыкметныя пухліны ўтвараюцца ў людзей з адчувальнай скурай і ў дзяцей. Да ўкушаных месцаў неабходна прыкладваць халодныя кампрэсы або вільготную гліну

Добра змазаць месца ўкусу нашатырным спіртам, а калі яго няма, то сокам цыбулі, агурка або прывязаць да месца ўкусу кавалачак свежай цыбулі або агурка. Можна таксама змачыць месца ўкусу лімонным сокам або воцатам. Пры адсутнасці ўсіх указаных вышэй сродкаў трэба проста змачыць укушанае месца слінай і даць ёй выпарыцца.

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

**...першыя будынкі тэатраў узніклі ў старажытнай Грэцыі ў IV стагоддзі да нашай эры ў Афінах і Эпідауры. Будынак тэатра складаўся з архестры — круглай пляцоўкі для хору, тэатрона — глядзельных месцаў, скены — палаткі для выхаду акцёраў. З гэтых элементаў старажытнага тэатральнага будынка развіліся вядомыя нам сучасныя паняцці: аркестр, тэатр, сцэна.**

**...музычны інструмент саксафон атрымаў назву па прозвішчу яго стваральніка — бельгійскага майстра духавых інструментаў Адольфа Сакса, — і быў вынайдзены яшчэ ў 1845 годзе.**

## НАВУКА І ТЭХНІКА

# „ЧАРАДЗЕЙНЫ“ АБРУС

Перад вамі абрус з яркім, прыгожым узорам. Ён сатканы са звычайных тэкстыльных валокнаў. Незнарок вы разлілі на яго чарніла або расліннае масла ці віно. І дзіўна — яны не пакінулі плям на гэтым незвычайным абрусе. Дробнымі, калі вы паднімеце яго за ражкі, пацеркамі вадкасць скоціцца з абруса.

Што ж надае гэтай тканіне цудоўныя ўласцівасці? Аказваецца, яна апрацавана спецыяльнымі гідрафобнымі саставамі. Некалькі гадоў таму назад гэтыя саставы прыгатавалі савецкія хімікі доктар хімічных навук Б. Доўгаў і кандыдат хімічных навук М. Баранкоў з новых сінтэтычных рэчываў — крэмнійарганічных палімераў.

Тканіна, апрацаваная гэтымі цудоўнымі саставамі, трымае на сваёй паверхні вадкасці і пасля мыцця яе ў гарачай вадзе. У касцюме з гэтай тканіны можна хадзіць пад праліўным дажджом і не прамокнуць.

У абутку, апрацаваным цудадзейнымі растворамі, можна смела хадзіць па лужах і па талым снезе, не рызыкуючы прамачыць ногі. Не страшна ў такім абутку хадзіць і па гразі. Пратрыце ваш чаравік або туфель мокрай анучкай, і ад гразі не застанецца і следу. Абутак будзе такі ж чысты, бліскучы, як і раней.

Нябачная «браня», ахоўваючы тканіну і скуру ад вільгаці, не перашкаджае пранікненню паветра. Нага ў абутку, апрацаваным гідрафобнымі саставамі, «дыхае», не горш, чым у звычайным абутку.

А які зручны будзе посуд, змочаны водаадштурхоўваючымі вадкасцямі! Талеркі, кубкі, сподкі, шклянкі не трэба выціраць ручніком, — дастаткова толькі спаласнуць іх цёплай вадой. Вада не прыстане да іх сценак, пакрытых ахоўнай плёнкай.

Кожны шафёр і аўтааматар ведае, як цяжка ездзіць у аўтамабілі ў час вялікага дажджу. Дажджавыя кроплі расцякаюцца на назіральным шкле. Мала дапамагае і «дворнік», які разганяе вадзяныя кроплі па шкле. Ды ён нязручны, бо ўвесь час мільгаціць перад вачыма.

Калі ж назіральнае шкло аўтамашыны пакрыць тонкім слоем гідрафобнай вадкасці, то кроплі дажджу не расцякуцца па шкле, а будуць знімацца паветраным патокам.

Большасць лакаў і фарбаў, якімі карыстаюцца для аховы металаў ад іржы, дрэва і каменя ад разбуральнага дзеяння вільгаці і паветра, з часам робяцца цьмянымі, трэскаюцца і асыпаюцца.

У вялікіх прамысловых гарадах фасады дамоў хутка трацяць свой прыгожы выгляд: яны робяцца цьмянымі ад дыму, які ўтрымлівае сярністы газ і іншыя шкодныя прымесі.

Тонкая плёнка крэмнійарганічнага палімера, якая ўтвараецца пры апрацоўцы фасадаў будынкаў гідрафобнай вадкасцю, на доўгія гады захоўвае іх прыгожы выгляд. Гэтую ахоўную плёнку не разбурае ні дождж, ні сонца, на яе не дзейнічаюць вецер і снег, ёй не страшны і люты мароз.

Некалькі гадоў назад у Ленінградзе гідрафобнай вадкасцю былі апрацаваны фасады шэрагу жылых дамоў, грамадскіх памяшканняў і школ. Іх і цяпер лёгка пазнаць сярод іншых па свежасці афарбоўкі.

# МОДА на восень 1961 г.



**Сукенка з грубатканай каляровай шэрсці. Паніжаная талія падкрэсліваецца поясам. Вялікія накладныя кішэні ад бакавых швоў. Мадэль зроблена Цэнтральнай лабараторыяй швейнай прамысловасці ў Лодзі.**

# ПАЛЁТ КАПІТАНА ГРЫСОМА




22 ліпеня капітан ваенна-паветраных сіл Злучаных Штатаў Вірджыл Грысом адбыў палёт у кабіне ракеты «Рэдстоун», якая падняла яго на 188,8 кіламетра над зямлёй. Гэты палёт быў амаль паўтарэннем палёту Алана Шэпарда.

Кабіна, у якой знаходзіўся капітан Грысом, упала ў Атлантычны акіян і пачала тапіцца. Грысом выратаваўся праз запасную дзірку. Верталёт падабраў яго з вады. Кабіна разам з апаратурай пашла на дно Атлантыкі.

На здымку: верталёт падымае амерыканскага лётчыка з вады.

## РАКАВІЦКІЯ САМАДЗЕЙНІКІ

Рух мастацкай самадзейнасці на Дуброўшчыне не мае так багатай традыцыі як, напрыклад, у Бельскім ці Гайнаўскім паветах. Усё ж такі за апошні час і на Дуброўшчыне назіраюцца нейкія зрухі ў гэтым напрамку. У самай Дуброве гуртох БГКТ арганізаваў групу мастацкай самадзейнасці. Яна рыхтуе пастаноўку п'есы, вывучае песні.

Нядаўна арганізавана гурток мастацкай самадзейнасці ў вёсцы Ракавічы. Да яго прыступіла 25 асоб вясковай моладзі. А трэба сказаць, што ў Ракавічах моладзь таленавітая і вельмі горнецца да мастацкай самадзейнасці. Прыгожыя галасы маюць тут Зося Экстэровіч, Ядвіга Сковыш, Вераніка Герасімік, Станіслава Ярмак, Адольф Бугеда і Станіслаў Сковыш.

22 ліпеня ракавіцкі хор выступаў у Дуброве. Яго тут вельмі цёпла прынялі, асабліва за выкананне беларускай народнай песні — «Мікіта». Рэпертуар ракавіцкага хору вельмі цікавы. У ім і беларускія, і польскія, і рускія народныя песні. А найбольш папулярнай песняй у Ракавічах з'яўляецца «Трапінка».

Ракавіцкім самадзейнікам шмат дапамагае Славамір Ражноўскі — працаўнік інспектарата асветы. За гэта ракавіцкая моладзь вельмі яму ўдзячна.

(вб)

## ЗАСЛУЖАНАЯ ПАШАНА

Аляксандра Маркевіча — фельчара з Пасынак добра ведаюць сяляне з многіх вёсак. Ён стаіць на стражы іх здароўя, дапамагае пазбавіцца розных хвароб, вядзе вялікую прафілактычную дзейнасць. А калі ў хату прыдзе нечаканая бяда, ён заўсёды спяшыць з медыцынскай дапамогай. Вось некалькі прыкладаў яго ахвярнай працы.

Ноччу Уладзіславу Янушэўскую схапіў атак сэрца. У 12 гадзін ночы Аляксандр Маркевіч зрываецца з цёплай пасцелі, хутка апранаецца, сядае ў жалезны воз і едзе ратаваць ад смерці чалавека

Да хваравітай Марыі Пракапюк з Кожына ён таксама часта едзе з медыцынскай дапамогай.

Мясцовы лекар вядзе належную апеку над школамі ў сваім раёне. Ён па некалькі разоў у год выслухоўвае стан здароўя кожнага вучня. У наваколлі Пасынак (на Бельшчыне) вельмі паважаюць Аляксандра Маркевіча. Ён умее падбадзёрыць кожнага хворага. Да кожнага знойдзецца ў яго ласкавае слова. Аб яго высокім аўтарытэце ў пасынаўскай грамадзе сведчыць і тое, што насельніцтва выбрала яго на раднага грамадскай рады нарадовай.

(мх)

## З МАЛАКОМ НЕ БУДЗЕ КЛОПАТУ

Жыхары некаторых аколіц Сямяціцкага павета мелі шмат клопатаў са збытам малака. Клопаты гэтыя ўсё больш узрасталі па меры таго, як павялічваўся абшар пашы і сенажацяў, на якіх была праведзена меліярацыя і павялічвалася жывёлагадоўля. Таму былі даволі частыя выпадкі, калі некаторыя вёскі зусім не маглі збыць надмеру малака. Каб развязаць гэтую праблему ў апошнім пяцігадовым плане развіцця Сямяціцкага павета, між іншым, была намечана пабудова новых малочных прадпрыемстваў. Адно з іх ужо будуецца ў Сямяцічах за кошт звыш 20 мільёнаў злотых. Другое будзе пабудавана ў Цеханоўцу за кошт каля 30 мільёнаў злотых.

Несумненна, што новыя малочныя прадпрыемствы канчаткова развяжуць справу збыту малака і будуць не малым фактарам далейшага павелічэння жывёлагадоўлі ў павеце.

(вб)

## ТЫТУНЬ РАСЛІНА ДАХАДОВАЯ

Вырошчванне тытуню на Дуброўшчыне мае ўжо багатую традыцыю. Яшчэ ў даваенны перыяд сяляне Дуброўскага павета займаліся гэтай справай. Асабліва шмат тытуню на Дуброўшчыне вырошчваецца зараз. Сёлета ў павеце пад тытунь прызначылі звыш 700 гектараў зямельных угоддзяў. Вырошчваецца тут высокаякасны тытунь так званы «скранёўскі», які пераважна прызначаецца на экспарт. Найбольш гэтага тытуню мы экспартуем у Заходнюю Германію, атрымоўваючы за яго каштоўныя дэвізы.

А трэба ведаць, што тытунь, расліна вельмі дахадовая. Адзін гектар тытуню дае селяніну каля 30 тысяч злотых чыстага даходу. На Дуброўшчыне штогод атрымоўваецца добрыя ўраджаі тытуню. Напрыклад, у мінулым годзе атрымана ў сярэднім каля 17 цэнтнераў з гектара. Калі палічыць, што дзяржава плаціць звыш 17 злотых за адзін кілаграм такога тытуню, дык відавочным становіцца прыбытак з вырошчвання гэтай расліны.

(вб)

## ЛЮДЗІ ШУКАЮЦЬ БЯДУ

### ЧУЖЫМ ДАБРОМ НЕ ЎЗБАГАЦІШСЯ

Жыхары вёскі Мора ў Гайнаўскім павеце Дзмітрый Ручай і Юрый Аліферук даўно ўжо вядомыя са сваёй зладзейскай натуры. Суседзі заўсёды наракаюць, што нічога нельга пакінуць на панадворку, усё трэба трымаць пад замком. Зладзеям усё спатрэбіцца. Мала ім было ўжо зладзейскіх выскокаў у сваёй вёсцы. Залажылі зладзейскую суполку і паехалі ноччу красці ў суседнюю вёску Махнатае. Аліферук узяў на свой воз дзевяць дзевятак скошанага жыта, а Ручай — як больш захланны — дванаццаць.

Раніцай свежыя сляды давялі міліцыянераў проста да клунь зладзеяў. Хочаш не хочаш, а збожжа давялося адвозіць назад. Каб было ўсё шыта — крыта, Ручай прапанаваў міліцыянеру 800 зл. хабару.

Неўзабаве адбудзецца судовая справа. Зладзеі будуць адказваць і за зладзейства і за папытку перакупіць міліцыянера. Суд напэўна пакарае прыкладна, каб зладзеі пазбыліся сваёй зладзейскай натуры.

*

Тадэуш Завадскі (Беласток, вул. Гротгера 11, кв. 3) і Збігнеў Лось (Беласток, вул. Падлесьна 17, кв. 20) станавілі суполку зладзеяў буйнейшага калібру. На іх зладзейскім конце знайшліся, між іншым, 2 матацыклы ВФМ і 2 узломы да кіёскаў «Руху», з якіх прысвоілі тавараў вартасцю ў 35 тысяч злотых.

Пракурор для г. Беластока прыказаў арыштаваць зладзеяў. Незадоўга стануць яны перад судом.

П. БЯДА

## НОВЫ МОСТ

Вёска Новае Ляўкова (Гайнаўскі павет) знаходзіцца над рэчкай Баброўкай, якая ўпадае ў раку Нараўку. На гэтай рэчцы быў стары драўляны мост, праз які часам вясной вада праходзіла. Да гэтага яшчэ трэба было з'язджаць да яго з горкі, а потым цяжка падымацца, каб з'ехаць на далейшую дарогу.

Прайшло некалькі год, і зараз маем новы мост. Кошт гэтай інвестыцыі склаў не менш 100 тысяч злотых. У пабудову гэтага бетоннага маста вялікі ўклад унеслі мясцовыя ўлады. Здаецца, што пачынанні наваляўкоўцаў заслугоўваюць на ўвагу і варта, каб сяляне другіх вёсак, дзе існуе неабходнасць такой інвестыцыі, таксама аказаліся дбайнымі пра сваю вёску і аколіцу.

ЯНКА ЦЯЛУШЭЦКІ

(Працяг са стар. 3)

пазнаёміцца. А цяпер абавязкова правядзем нараду трох атрадаў.

— Трох? — перапытаў Мінай. — Хто ж трэці?

— Волкаў. Не чулі?

— Старшыня Мехаўскага райвыканкома? Ён тут?

— А як жа! На поўнач ад Гарадка дзейнічае.

...Праз некалькі дзён Іваноў пазнаёміў Міная з Волкавым. Яны сустрэліся ў лесе каля вёскі Прывольні. Тут і адбылася нарада. На ёй Мінай запрапанаваў захапіць Сураж.

— Гарнізон там цяпер невялікі, чалавек трыста. У гітлераўцаў цяпер няма ні гармат, ні танкаў. Мы прадэманструем нашу сілу, умацуем у народзе веру ў перамогу!

Прапанова Міная спадабалася Волкаву. Іваноў таксама згадзіўся ўдзельнічаць у аперацыі.

— Вось і выдатна, — сказаў Мінай. — Для падрыхтоўкі нам хопіць два - тры тыдні. Апошні час мы выкарыстаем для пабудовы зімовага лагера.

(Працяг за тыдзень)

73

### СКАРГІ І ПРАПАНОВЫ

## КУПІЦЬ КАРОВУ, АЛЕ ДЗЕ?

Вось бачаны эпізод. Па дарозе, на поўнач ад Нараўкі, едзе падвода. Яна ўсё затрымліваецца і рэхам разыходзіцца па полі і лесе «па мацюшке і бацюшке» гаспадара падводы. Конь не хоча цягнуць воза, а карова на вяровачнай увязі добраахвотна не хоча ісці побач. Ноч. Гаспадар — падарожнік пашукаў у лесе «дубінку» і... панаслося таксама рэхам ад бедных бакоў жывёлы...

Тут успомнілісь мне раптам усе таварыствы аховы і апекі над звярамі і жывёлай, міліцыя, пакаральныя калегіі, перад якімі гаспадар - падарожнік мог бы моцна «кланяцца». Але сёння ён, а заўтра яго сусед можа паўтарыць падобнае...

Гаспадар гэты быў з вёскі Масява ў Гайнаўскім павеце. Каб купіць карову, ён у серадў а поўдні паехаў у Бельск Падляскі, а вярнуўся ў чацвер позна ноччу. Такое падарожжа, якога эпізод я расказаў вышэй, напэўна не пайшло на здароўе гаспадару - земляробу, а тым больш купленай карове і каню. З Масява ў Бельск звыш 40 кіламетраў.

Справа ў тым, што павятовыя ўлады ў Гайнаўцы не паклапаціліся, каб на тэрыторыі свайго павета прызначыць поўгектаравы кусок зямлі пад рынак, на якім земляробы маглі б прадаваць і купляць на гадоўлю каровы, коней і іншую жывёлу. Так прынялося ў нас і ўвайшло ўжо ў традыцыю, што каровы і іншую жывёлу на гадоўлю прадаецца і купляецца на вялікім рынку. Вядома, большы выбар, большыя магчымасці абмену, больш пакупнікаў, чым на «гмінным» рынку.

Жыхары вёсак Гайнаўскага павета прасілі мяне ўжо некалькі разоў напісаць аб патрэбе арганізавання рынку ў Гайнаўцы. І ў канцы «натхнуў» мяне да гэтага вышэй апісаны бачаны эпізод.

Дык прапануем аддзелам ральніцтва і гандлю Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы адвесці кусок няўгоддзяў пад большы рынак продажу - пакупкі хатняй жывёлы на гадоўлю і аб'явіць аб гэтым земляробам, каб аблегчыць і ім жыццё і жывёле, якую даводзіцца земляробам «цягаць» аж на рынак у Бельск. Разам з чытачамі чакаем на хуткае афармленне справы.

М. КУРАШ

## КІНО

Праграма на чацвёрты тыдзень жніўня

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Навасады**
„Bitwa pod piramidami" (ZSRR)

**Нараўка**
„Historia współczesna" (polski)

**Кляшчэлі**
„Ząb rekina" (ZSRR) i „Ucieczka przed cieniem" (CSR)

**Чыжы**
„Teresa Reguin" (franc.)

**Чаромуха**
„Królowa Margot" (franc.) i „Miłośc należy cenić" (ZSRR)

**Нарва**
„Ewakuować miasto" (ZSRR)

**Белавежа**
„Legenda o lodowatym sercu" (ZSRR) i „Gorączka w El Pao" (franc.)

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Супрасль**
„Przebudzenie" (CSR) i „Statek z dynamitem" (rum.)

**Міхалова**
„Miłość należy cenić" (ZSRR) i „W masce i bez maski" (koreański)

**Гарадок**
„Ząb rekina" (ZSRR) i „Ucieczka przed cieniem" (CSR)

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Sieriożа" (ZSRR)

**Крынкі**
„Młodzi małżonkowie" (włoski) i „Biały Szejk" (włoski)

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Biała krew" (NRD)

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Niewysłany list" (ZSRR)

**Боцькі**
„A jednak cię kocham" (ZSRR)

**Гродзіск**
„Szatan z siódmej klasy" (polski)

**Браньск**
„Pierwsza lekcja" (bułg.) i „Czerwony atrament" (węg.)

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Драгічын**
„Wyznanie hochsztaplera Feliksa Krulla" (NRF) i „Korsarze Pacyfiku" I seria (ZSRR)

**Мілейчыцы**
„Słońce świeci dla wszystkich" (ZSRR) i „Królewna ze złotą gwiazdką" (CSR)

**Нурэц**
„Spotkanie z Francją" (ZSRR) i „Podróż za ocean" (ZSRR)

**Мельнік**
„My dwoje" (meksyk.) i „W masce i bez maski" (koreański)

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7.20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024.

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie; 5 $ — w USA.

Nakł. 5000. Błtk. B-1




# ЛАГЕРЫ

Прыгажосць! У нашай вёсцы куды не глянеш — усюды пейзаж хоць ахай. Захапляешся наваколлем і не можаш уразумець, як гэта Усявышні паспеў за шэсць дзён лясок пасадзіць, паплаўцы параскідаць ды яшчэ рэчку маляўнічай стужкай пралажыць.

У лесе ягад, грыбоў для людзей і жалудоў свінням хоць заваліся. Рыбы ў рэчцы не пераловіш, і ўсё гэта зроблена без надлічбовых гадзін, так сказаць саматужным чынам.

З прычыны гэтага прыгожага наваколля гарадскія гарцэры лагерам пад лесам разлажыліся на зайздрасць вясковым дзецям.

Гарцэры разбілі палаткі, перад кожнай заткнулі каляровыя флажкі і вартавых паставілі. Пацешнае войска ды толькі.

Ох, як хочацца нашым галадранцам паглядзець, што ўнутры палатак! Бліжэй падыйсці яны пабойваюцца. У вартавых жа за паясамі фінскія нажы. Ведаюць шэльмы, што ваўка лепш за ўсё з акна дражніць.

Узрослым жыхарам вёскі лагер таксама спадабаўся. Кастусь нават выступіў з прамовай да грамадзян, якія чакалі на адкрыццё крамы ГС.

— Мы таксама маглі б арганізаваць лагер, нават без фінансавай дапамогі дзяржавы, — гаварыў ён. — Замест палатак мы змайстравалі б радняныя шалашы. Перад шалашамі паставілі б нашых галаварэзаў з віламі. Лагерны дзень паводле распіскі ўлажылі б, а то ад бяздзейнасці нашыя падшывальцы па вёсцы дурэюць...

Тут Кастусь за галаву схапіўся і зароў:

— Ах ты! З рагаткі ўгадзіў...

Васька, хаваючы за спіну рагатку, падаўся назад апраўдоўваючыся:

— Я цэліў у варону, што на страсе...

— А каб, барані Божа, у вока пацэліў? Сляпым зрабіў бы на ўсё жыццё.

— Што ты вярзеш, Кастусь, — запярэчыў Максім. — Дзіцё ў варону не пацэліла, дык дзе ж яму ў вока пацэліць.

— У лагеры навучыліся б цэліць, — заўважыў Мірон. — А так майму пеўню нагу перабілі рыкашэтам.

— Гэта выпадкова, калі рыкашэтам. Я, бывала, на ляту збіваў вераб'я з рагаткі, — пахваліўся Максім.

— Гарцэры ў лагеры не забаўляюцца рагаткамі, — заўважыў Кастусь.

— Не ўмеюць. Яны нават нажы носяць так сабе, для формы, — сказаў Максім.

— З такімі поглядамі, як у Максіма, нашы дзеці з лагера разбойнікамі вярнуліся б, — не ўступаў Кастусь.

Як далей прадаўжалася б гэтая спрэчка, невядома, таму што дзверы ў краме расчыніліся і людзі хлынулі туды.

А варта было б падумаць, мілыя чытачы, над арганізацыяй лагераў вясковай дзетвары. Дзеці прывыкалі б да дысцыпліны, а пасля настаўнікам лягчэй было б убіваць навуку ў буйныя галовы.

*Дзядзька Лявон*

# ПЕСНЯ

(БАЙКА)

Квітнеў вішнёвы сад.
Свяціла сонейка, павейваў ветрык ціха.
Сядзела на гняздзечку салаўіха,
Чакаючы салаўянят.
Каля яе салоўка завіхаўся
І песняй звонкай разліваўся
На ўсе бліжэйшыя лясы, лугі, палі.
А песня харáство жыцця ўслаўляла,
За сэрца кожнага хапала.
«Бывае шчасце на зямлі! —
З уздыхам курыца чубатая сказала, —
Чаго ёй, салаўісе той, тужыць? —
Салоўка ёю даражыць,
Дзеля яе і заліваецца. Кахае!
Калі ж і мой настане час?»
А певень недалёка быў якраз,
Заўважыў, што чубатка ўздыхае,
І вырашыў: «Магу і я
Сысці за салаўя.
А ну ж, уперад смела!»
Чубатка й азірнуцца не паспела,
Як певень ля яе загаласіў:
«Ку-ка-рэ-ку-у» — пад неба паляцела.
І хоць той спеў не салаўіны быў,
А ў сэрцы курыцы каханне запаліў.
Ад радасці чубатка аж прысела,
Заныла у грудзях ад пачуцця,
Да пеўня прытулілася, прыпала.
«Дарэмна, — думае, — на лёс я наракала.
Не знойдзеш саладзей курынага жыцця!
Нарэшце і мяне каханне адшукала».
Ды рана захаплялася яна.
Хвіліны не прайшло, як — вось табе і на! —
Ні спеву, ні каханага не стала,
Бо гэты хуліган
Махнуў цераз паркан
На двор, што ля суседняй хаткі,
І вось ужо каля чужой чубаткі
Бяздушны, бессардэчны кавалер
Любоўна кукарэкаць пачынае.
*
Салодкай песні век не вер,
Пакуль не разбярэшся — хто спявае.

**УЛАДЗІМІР КОРБАН**

### СУД ЗА ФІГУ

У час хатняй сваркі нявестка сунула свякрусе фігу. Тая падала яе ў суд. На судзе, суддзя, пракурор і лаўнікі раяць ім памірыцца.

— За фігу не варта судзіцца, — кажуць яны.

Свякруха ўзбурылася і кажа:

— Калі не хочаце судзіць нявестку за фігу, то наце вам кожнаму па адной фізе.

**Валодзя Ціханюк**
Койлы

### ЗАА

— Ну, Вася, раскажы, што ты бачыў у Заалагічным парку? — пытае маці.

— Негра, — адказвае сын.

— Што ж ён рабіў там? — здзіўляецца маці.

— Ён таксама, як і я, аглядаў ЗАА.

**Юры Раманчук**
Гушчэвіна




### НЕ ЗНАЎ

— Пасароміўся б, Іван, у бедных людзей старую курыцу красці, — кажа сусед да суседа.

— А ці я знаў, што яна старая, — апраўдваецца злодзей.

**Янка Здаavoid**

### АДКАЗАЎ

Настаўнік пытае вучняў:

— Хто мне адкажа, як доўга Адам з Евай былі ў раю?

— Да восені, — хуценька адказаў Антось.

— Да восені, чаму? — пытае настаўнік.

— Бо раней яблыкі не даспяваюць, — адказаў вучань.

**Алесь Шаховіч**
Сакі

### ДАКЛАДНЫ

Рэстаран. Шумна. Раптам убягае нейкі хлапец і крычыць:

— Чый матацыкл на вуліцы тут стаяў?!

— Мой, — адказвае нейкі грамадзянін. — А што?

— Яго толькі што ўкралі.

— А злодзея вы прыкмецілі?

— Не, на злодзея я не глядзеў, толькі запісаў дакладны нумар матацыкла.

**Віктар Сцепанюк**
Давідавічы

## СПЯВАЕМ ПЕСНІ

Сёння прапануем украінскую «Верхавіну», папулярную не толькі на Украіне, але і ў цэлым Савецкім Саюзе, а таксама за яго межамі. Словы і музыку напісаў М. Машкін.

## ВЕРХОВИНО, МАТИ МОЯ




У трембіточку заграю,
Заграю, загуду.
З своїм милим рідним краєм
Розмову поведу.
Верховино, мати моя,
Вся краса чудова твоя
У мене на виду.

Стелиться туман над зворем,
Лягає на груні,
За горами далі гори
Синіють в долині.
А над ними хмари плинуть,
Наче вівці в полонині
Пасуться навесні.

Хвилюється у долинах
Пшениця золота,
Спів заводів в полонину
До мене доліта.
Верховино, ти мій краю,
Хто твої тепер пізнає
І села і міста?

Я сміюсь на повні груди,
Радію, мов дитя,
Перетворюють в нас люди
І край свій і життя.
З високої полонини
Бачу, рідна Верховино,
Бачу твоє, Верховино
Щасливе майбуття.



— Мужчыны тут вельмі ветлівыя; калі ўчора я згубіла ў вадзе купальны касцюм, усе з усяго пляжа збегліся, каб памагчы мне шукаць яго.

НАРОДНЫЯ ДУМКІ

### КІТАЙ

Ураднік не павінен мець ні бацькі, ні маці.